Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№61 (826) 1 красавіка 1994 г. Пятніца. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 608783 экз. Кошт у розніцу — 100 руб.

## ФАКС

### Вкратце

**Органы государственного страхового надзора стран СНГ и Балтии намерены приступить к обмену информацией о развитии страховых рынков этих государств.**

Согласно решению совещания представителей страховых ведомств стран СНГ и Балтии, состоявшегося в Москве, органы страхового надзора намерены также проводить регулярные встречи и взаимные консультации, касающиеся государственного регулирования страховой деятельности.

❑

**По предварительным данным, четыре человека пострадали в результате аварии в Московском метро — столкновения двух составов у станции "Петровско-Разумовская".**

Авария произошла вчера около 9.00. Наиболее тяжело пострадал машинист одного из поездов — у него закрытая черепно-мозговая травма, медики оценивают его состояние как средней степени тяжести.

❑

**Заместитель главнокомандующего пограничными войсками России генерал-майор Алексей Щербаков категорически опроверг появившиеся в ряде средств массовой информации сообщения о якобы готовящемся выводе российских погранвойск с южнокурильских островов.**

❑

**В ночь с 30 на 31 марта японские рыболовецкие суда предприняли еще 4 попытки массированного нарушения российско-японской границы в районе южных Курил.**

Вчера во второй половине дня из Южно-Сахалинска на южные Курилы вылетела большая группа руководителей Тихоокеанского пограничного округа для выяснения обстоятельств происшествия на месте.

❑

**Вчера состоялись панихида и похороны 12 членов экипажа разбившегося под Междуреченском самолета А-310.**

Они похоронены на подмосковном кладбище Митино. Останки 63 пассажиров будут переданы семьям погибших.

❑

**На торгах Московской межбанковской валютной биржи вчера курс доллара США не изменился и составлял 1753 рубля.**

❑

**Четверо нарушителей проникли в Таджикистан из Афганистана ночью 30 марта в районе 12-й заставы Пянджского погранотряда.**

Ведется поиск нарушителей.

❑

**Военный комендант Тирасполя полковник Михаил Бергман потребовал немедленного ареста руководителей министерств госбезопасности и внутренних дел самопровозглашенной Приднестровской Молдавской Республики Шевцова и Матвеева.**

В передаче из Тирасполя, транслировавшейся по молдавскому телевидению, он заявил, что именно по их приказу в Москву была послана и участвовала в защите Белого дома 3—4 октября вооруженная группа из Приднестровья.

❑

**Союз купцов Армении официально зарегистрирован в республике.**

Это добровольная общественная организация, в которую вошло более 100 предпринимателей, занимающихся частной торговлей.




Рисунок Олега ПОПОВА.

### Шум дошел до Парижа...

**В адрес премьер-министра Беларуси Вячеслава Кебича от руководства Французской Демократической федерации труда пришло письмо, в котором выражена озабоченность отношением белорусских властей к представителям независимых и свободных профсоюзов республики.**

"Мы очень обеспокоены, — говорится в письме, — фактами преследования, жертвами которого стали профсоюзные работники, принадлежащие к белорусскому Конгрессу демократических профсоюзов". Упоминается, в частности, имя Вячеслава Козела — председателя свободного профсоюза Минского тракторного завода, наказанного судом за свою деятельность.

**Юрий АЛЕКСЕЕВ.**

### Спорт-экспресс

Белорусский тяжелоатлет Александр Курлович, участвуя в чемпионате бундеслиги в Германии, установил новый мировой рекорд в сумме двоеборья — 445 кг.

❑

На юношеском чемпионате Европы по хоккею в группе "В" сборная Беларуси сыграла вничью — 2:2 (2:0, 0:1, 0:1) с командой Италии.

### Пошло дело как по маслу

**Новое дело освоил Богушевский льнозавод, что в Сенненском районе.**

Здесь начали выпускать техническое масло из семян льна. Помогают в этом окрестные хозяйства: совхозы "Богушевский", "Яново", колхозы "Ясная заря", имени Заслонова, "Сцяг Перамогі". На общие средства закуплено оборудование, доходы от продажи дефицитного товара делятся между партнерами. Остающийся от переработки семян жмых идет на корм скоту.

**Сергей СЕРГЕЕВ.**

### Медицина была бессильна

**Печально закончился для медсестер Брестской областной больницы пикник на берегу реки в компании приятных кавалеров.**

С течением времени приятность мероприятия заметно шла на убыль, плавно перейдя в противоположное. Кавалеры отняли у медсестер полмиллиона рублей, сотню долларов, а одну из богатых леди попытались и вовсе лишить самого дорогого, но, к счастью, не успели. Дополнительно изъяв у последней в качестве компенсации за неудачу перстень и часы, "джентльмены" ретировались.

**Виктор ВАСИЛЬЕВ.**

### Белорусский аист облюбовал Прагу

**В Праге в скором времени появится вывеска с изображением белокрылого аиста: в одном из зданий разместится офис международной ассоциации "Беларусь".**

Этот символ будет сопровождать деятельность создаваемой организации, которая ставит целью расширение чешско-белорусских связей в деле предпринимательства.

### Поле и воин уже есть

**Минский пенсионер-предприниматель Эдуард Никифоров выступил с инициативой и полон намерений создать общественное неполитическое объединение избирателей Беларуси "За полную, продуктивную и свободно избранную занятость".**

В составленном им проекте декларации говорится, что власти республики должны выполнять основополагающие решения Международной организации труда по вопросам социальной политики, по содействию занятости и защите от безработицы, особенно в нынешнее непростое время.

Тезисы справедливые. Остается надеяться, что Эдуарду Яковлевичу хватит энергии претворить свои идеи в жизнь.

**Алесь СВЕТЛАНИЧ.**

### Салон с "круглым столом"

**Столица Беларуси второй раз станет центром международного салона "Реклама. Издательские системы. Оперативная полиграфия".**

Как было сообщено на брифине в Министерстве информации Беларуси, в дни работы салона будут, в частности, организованы несколько "круглых столов" и семинар на тему "Рекламная, издательская и полиграфическая деятельность в условиях рынка".

**Вероника БЕГУН.**

### Неблагоприятные дни в апреле

По данным ученых лаборатории геофизики и геохимии Новосибирского отделения Академии наук России, неблагоприятные в геофизическом плане дни ожидаются 3, 8, 10, 16, 25 и 30 апреля.

### Соседи все-таки...

**Согласовано и практически готово к подписанию двустороннее белорусско-литовское соглашение об упрощенном порядке пропуска приграничного населения через государственную границу.**

Об этом сообщил заместитель начальника штаба Главного управления пограничных войск при Совете Министров Беларуси Владимир Ананич. По его словам, жители приграничных районов Беларуси и Литвы будут переходить границу по пропускам, которые будут выдаваться органами охраны границы Литвы и органами пограничного контроля Беларуси.

**Виктор ДЯТЛИКОВИЧ.**

### Болен бюджет

**В критической ситуации оказалась Кличевская районная больница.**

Чтобы накормить и обеспечить лекарствами почти 200 человек, главному врачу Станиславу Ворожуну приходится вымаливать под честное слово продукты в райпотребсоюзе, а медикаменты — в местной аптеке. Долг уже исчисляется десятками миллионов рублей. Причина такого бедственного положения больницы весьма банальна — в бюджете района нет средств.

**Николай КОМЛЕВ.**

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, БелаПАН.**

*На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Авальная зала зачынілася. Ці ўдасца адпачыць ад палітыкі?..

**Павел СТАСЕВІЧ**

Эмацыянальна-псіхалагічны настрой учарашняга парламенцкага дня быў вызначаны вячэрнім пасяджэннем папярэдняга. А на ім, як вядома, з чарговым дакладам выступіў старшыня Часовай камісіі Вярхоўнага Савета па вывучэнню дзейнасці камерцыйных структур, якія дзейнічаюць пры рэспубліканскіх і мясцовых органах улады і кіравання, А.Лукашэнка. Ён, як і абяцаў раней, назваў тыя факты і дакументы, што маюцца ў "чамадане" камісіі.

Быў прадстаўлены на разгляд дэпутатаў і праект пастановы, у якім "у сувязі з непрыняццем мер па забеспячэнню эканамічных інтарэсаў дзяржавы ва ўзаемаадносінах з камерцыйнымі структурамі, адсутнасцю кантролю..." прапаноўвалася, у прыватнасці, вызваліць ад займаемых пасад старшыню Нацыянальнага банка С.Багданкевіча, намеснікаў Старшыні Савета Міністраў С.Брыля і М.Косцікава, старшыню Дзяржкамітэта па знешніх эканамічных сувязях У.Радкевіча, міністра абароны П.Казлоўскага.

Зразумела, што такая сур'ёзная "заяўка" без сур'ёзных дэбатаў абысціся не магла. І таму пасля традыцыйнага "Рознага", у якім дэпутаты ўзнімалі важныя праблемы штодзённага сацыяльна-эканамічнага жыцця дзяржавы, парламент пачаў абмяркоўваць "карупцыйную" тэму.

І тут погляды на дзейнасць Часовай камісіі і яе старшыню раздзяліліся. Напрыклад, дэпутат Э.Хацяшоў запрашаў калег ацаніць дзейнасць Часовай камісіі з эканамічнага боку: выдаткі на арганізацыю яе работы дзяржава нясе вялікія, а якая ад гэтага аддача? Каго арыштавалі? Зрабіў папрок Э.Хацяшоў і канкрэтна А.Лукашэнку, які, на яго погляд, ператварыў камісію "ў трыбуну для сваёй палітычнай папулярнасці".

Крытычна ацаніў дзейнасць Часовай камісіі і асабіста А.Лукашэнкі і народны дэпутат С.Антончык, таксама член камісіі. Па яго словах, "ідзе барацьба за партфелі, а не барацьба з карупцыяй". Дэпутат унёс свае прапановы па ўзмацненню барацьбы з карупцыяй і заявіў аб выхадзе з Часовай камісіі.

Такую ж заяву зрабіў і В.Кучынскі, выказаўшы свае меркаванні аб шляхах барацьбы з мафіёзнымі структурамі. Сённяшнюю сітуацыю В.Кучынскі ахарактарызаваў словамі: "Отечество в опасности!"

Старшыня Камітэта дзяржбяспекі Г.Лавіцкі (таксама член Часовай камісіі) папракнуў А.Лукашэнку за абнародаванне аператыўных матэрыялаў КДБ, якія з'яўляюцца сакрэтнымі. Старшыня КДБ падкрэсліў, што барацьба з арганізаванай злачыннасцю павінна весціся згодна з Законам "Аб аператыўна-вышуковай дзейнасці", а віну кожнага чалавека вызначыць толькі суд. Заяву аб выхадзе з Часовай камісіі зрабіў і дэпутат Ф.Мінько.

Потым слова бралі С.Багданкевіч, С.Брыль, М.Косцікаў, У.Радкевіч, П.Казлоўскі. Яны не пагадзіліся з абвінавачваннямі, выказанымі А.Лукашэнкам у іх адрас.

З даволі працяглым дакладам выступіў Генеральны пракурор В.Шаладонаў. Ён на канкрэтных фактах паказваў дэпутатам, якія справы "пракручваюць" асобныя дзялкі і як раскрадаецца дзяржаўнае дабро. Далей адступаць, па яго меркаванню, няма куды. Таму В.Шаладонаў заклікаў калег як мага хутчэй выпрацаваць доўгатэрміновую праграму барацьбы са злачыннасцю і падвесці пад яе вельмі трывалую заканадаўчую базу.

Старшыня Часовай камісіі А.Лукашэнка ў сваім заключным слове назваў новыя факты, якія, на яго думку, даюць падставы ставіць пытанне аб вызваленні ад займаемых пасад названых у праекце пастановы службовых асоб.

Пасля гэтага пачалося даволі нервовае абмеркаванне рэгламенту, разгарнуліся дэбаты, успыхнулі "міжсабойчыкі". Былі ўнесены і новыя праекты пастаноў. Тым больш што той, за які выступаў А.Лукашэнка, за аснову прыняты не быў.

Дэбаты, здавалася, не скончацца да вечара. Але тут сваё слова сказалі народныя дэпутаты — прафесійныя юрысты, якія нагадалі калегам, што спрачацца, па сутнасці, няма чаго. Бо, па-першае, рашэнне аб далейшым лёсе камісіі (статус пастаяннай ёй дадзены не быў) дэпутаты прынялі ўжо раней. А другое даручэнне парламента — даць прапановы па канкрэтных службовых асобах — камісія А.Лукашэнкі якраз і выканала, але падтрымана не была, а іншых даручэнняў ад парламента і не мела.

Такім чынам, пытанне, што называецца, вычарпана. Тым больш што аб выхадзе з Часовай камісіі пісьмова заявілі і дэпутаты В.Сарокін, П.Драбышэўскі, М.Марыніч, аб чым парламентарыяў праінфармаваў Старшыня Вярхоўнага Савета М.Грыб.

Ён жа і выступіў затым з заключным словам, у якім падкрэсліў плённасць гэтай даволі працяглай сесіі, што дала дзяржаве новую Канстытуцыю, пажадаў парламентарыям добрага здароўя і плённай працы ў падрыхтоўцы да чарговай сесіі, якая адкрыецца ў сярэдзіне мая.

Так што Авальная зала парламента зачыняецца. Але ад палітыкі мы наўрад ці адпачнём: разгараецца перадвыбарная кампанія за прэзідэнцтва.

Адным словам, пажывём — пабачым...

*Пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб правапераемнасці Рэспублікі Беларусь у адносінах да Дагавора паміж Фінляндскай Рэспублікай і СССР аб прававой абароне і прававой дапамозе па грамадзянскіх, сямейных і крымінальных справах, падпісанага 11 жніўня 1978 года ў горадзе Хельсінкі

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Прызнаць правапераемнасць Рэспублікі Беларусь у адносінах да Дагавора паміж Фінляндскай Рэспублікай і Саюзам Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік аб прававой абароне і прававой дапамозе па грамадзянскіх, сямейных і крымінальных справах, падпісанага 11 жніўня 1978 года ў горадзе Хельсінкі.

2. Даручыць Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь ажыццявіць неабходныя меры па выкананню гэтай пастановы.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.ГРЫБ.**

11 сакавіка 1994 г.
г. Мінск.
№ 2845-XII

*Нам стала вядома*

## Бутрас Галі наведае Беларусь

**Як паведамілі карэспандэнту Белінфарма ў аддзеле інфармацыі МЗС рэспублікі, 5 красавіка чакаецца афіцыйны візіт у Беларусь Генеральнага сакратара ААН Бутраса Галі.**

У ходзе трохдзённага візіту прадугледжаны сустрэчы Бутраса Галі са Старшынёй Вярхоўнага Савета рэспублікі Мячэславам Грыбам, кіраўніком беларускага ўрада Вячаславам Кебічам, намеснікам Старшыні Саўміна, старшынёй Дзяржаўнага камітэта па праблемах вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС Іванам Кенікам. Пройдуць таксама перагаворы з кіраўніком знешнепалітычнага ведамства рэспублікі Пятром Краўчанкам, адбудзецца сустрэча з Выканаўчым сакратаром СНД Іванам Каратчэнем.

Генеральны сакратар ААН, як мяркуецца, наведае прадстаўніцтва ААН у Беларусі, клініку НДІ радыяцыйнай медыцыны ў Аксакаўшчыне. Запланаваны яго выступленні ў Акадэміі навук Беларусі, інтэрв'ю Беларускаму тэлебачанню і прэс-канферэнцыя ў Нацыянальным прэс-цэнтры.

**Белінфарм.**

*г.Мінск.*

**Сёння, калі ўсё прагрэсіўнае чалавецтва ўрачыста адзначае Дзень смеху, не забудзьцеся павіншаваць бліжняга неўміручым жартам:**

**"СПАДАР, У ВАС УСЯ СПІНА БЕЛАЯ!"**

*Гримасы рынка*

## В экономической "психушке" трудно выжить нормальному предпринимательству

**Тамара ШЕКОЛЬЯН, заместитель генерального директора АО "Элтик"**

**Не так давно в Витебске начал работу первый в республике негосударственный хлебозавод-магазин.**

АО "Элтик" образовано в 1989 году частными учредителями. Почти с самого начала его деятельности здесь стали заниматься не коммерцией, а выпуском продукции производственно-технического назначения: сварочных трансформаторов, гвоздей, электроприборов. Сейчас на первое место вышли товары народного потребления.

Фирма много строит. Уже завершены и действуют первая очередь мебельной фабрики, завод стиральных машин, цех нагревательных элементов для термопластавтоматов, хлебозавод, участок мебельной фурнитуры.

Несмотря на высокоэффективную деятельность, "Элтик" в деньгах не купается, зарплата — на уровне госпредприятий. И это потому, что вся остающаяся прибыль вкладывается в развитие производства.

Проблем хватает. Очень часто "Элтик" встречается с высокомерием, враждебностью, даже дискриминацией. Железнодорожные вагоны выделяются в первую очередь государственным предприятиям, а мы — вечно в "хвосте". Бензин, дизтопливо, запчасти приходится покупать только у коммерсантов, потому что бывшие главснабы, прикрывшиеся "рыночными" вывесками, продолжают выполнять волю своего хозяина — правительства и всячески нас обходят. А если что-нибудь и "отпустят", то сдерут, как с "частников": от 5 до 25 и более процентов дополнительно к стоимости материала. Так же ведут себя по отношению к нам и "казенные" предприятия. Иначе говоря, "Элтик" неприкрыто облагается сверхналогом в пользу тонущего, безынициативного госсектора экономики: "один — с сошкой, семеро — с ложкой". И при этом с "подачи" высокопоставленных чиновников нас еще пренебрежительно называют коммерсантами, хотя сами ведут себя, как хрестоматийные "акулы капитализма".

Им, возможно, кажется, что у нас несеянное растет. Но в результате такого заблуждения и непомерных поборов страдают все. Ведь наценки и "накрутки" неминуемо закладываются в цену нашего продукта. А рынку периода инфляции свойственно равняться на верхнюю ценовую планку. Значит, и товары родственных государственных предприятий торговый посредник не продаст дешевле, чем мы. Рабочий, производящий эти товары, он же — покупатель, возмутится дороговизной и потребует повышения зарплаты. Так закручивается новый виток инфляционной спирали.

Кому это нужно? Кому выгодно деление предприятий-производителей на "своих" и "чужих"? К слову, в России и Прибалтике таких различий нет. А вот Беларусь продолжает давить нормальное предпринимательство, поощряя тем самым торгово-закупочный "бизнес" с его "Ройялами" и "Сникерсами".

(Окончание на 2-й стр.)

*Заметкі з нагоды*

## Дзеля чаго ездзіў у Капыль віцэ-прэм'ер С.Лінг — вырашаць пытанні ці агітаваць за В.Кебіча?

Раней высокія начальнікі прыязджалі ў правінцыю з вялікай помпай. Увесь раён гудзеў і прыхарошваўся з нагоды маючага адбыцца візіту ўладарнага госця. Сёння сталічныя візіцёры стараюцца асабліва не выстаўляцца і распавядаюць пра свае ідэі і планы ўсё больш у вузкім коле наменклатуры.

Вось і намеснік Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь С.Лінг прыехаў на Капыльшчыну і правёў нараду з мясцовым дырэктаратам амаль што ўпотай.

Пагаварыць, дарэчы, было пра што. Горад літаральна замярзаў без цяпла. Кепска ідуць справы на прадпрыемствах. У цяжкіх умовах знаходзяцца калгасы і саўгасы...

Што і казаць, ёсць над чым задумацца віцэ-прэм'еру. Але ж ці толькі дзеля гэтага ехаў ён у Капыль? З многімі з тых, з кім сустракаўся С.Лінг, я потым гутарыў. І вось іх меркаванне — справы справамі, а галоўнае заданне ў Сяргея Сцяпанавіча, можна здагадвацца, было іншым — павесці размову наконт вылучэння на пасаду прэзідэнта Вячаслава Кебіча.

С.Лінг з уласцівым яму імпэтам пераконваў прысутных у перавагах свайго шэфа перад іншымі магчымымі кандыдатамі. І што здзіўляе — пасля візіту намесніка Старшыні Савета Міністраў ніякіх змен у горадзе практычна не адбылося, але затое некаторыя дырэктары прадпрыемстваў, кіраўнікі гаспадарак пачалі збіраць нарады падначаленых і праводзіць у жыццё рэкамендацыі-загады высокага кіраўніка. Зразумела, нікога не бянтэжыла, што на той час яшчэ не быў прыняты Закон аб выбарах прэзідэнта, не была прызначана іх дата. Перадвыбарная падвода пакацілася наперадзе каня.

Як народны дэпутат Рэспублікі Беларусь, хачу звярнуць увагу яшчэ на адну акалічнасць. Палымяную агітацыю за аднаго з прэтэндэнтаў на прэзідэнцкае крэсла Лінг праводзіў у рабочы час, раз'язджаючы за народныя грошы, хоць Вярхоўны Савет яшчэ не вызначыў, колькі іх прыйдзецца на кожнага кандыдата. Атрымліваецца, што агітбрыгада Кебіча распачала перадвыбарную кампанію, не дачакаўшыся часу "Ч".

Дарэчы, аб гэтым я таксама падумаў, калі 26 сакавіка прачытаў у рэспубліканскіх газетах інфармацыю: "Першы намеснік Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Міхаіл Мясніковіч, які пабываў з двухдзённым візітам на Брэстчыне, сустрэўся 24 сакавіка ў другой палове дня з кіраўнікамі і вядучымі спецыялістамі прамысловых прадпрыемстваў, банкаў і іншых вытворчых сфер эканомікі.

... Хоць дата выбараў першага прэзідэнта яшчэ не вызначана, але хутчэй за ўсё яны будуць назначаны на канец чэрвеня. Першы віцэ-прэм'ер заўважыў — на гэтую пасаду будзе прэтэндаваць і цяперашні кіраўнік урада Вячаслаў Кебіч, і выказаў надзею, што ўдзельнікі сустрэчы яго падтрымаюць".

Яшчэ адзін агітатар амаль што такога ж рангу выказваў надзею на гадзіннікавым заводзе, што пры прэзідэнце Кебічу калектыў прадпрыемства зажыве на шырокую нагу (цікава, чаму ён так не жыве пры прэм'еру Кебічу, які і сёння мае прэзідэнцкія паўнамоцтвы за невялікім выключэннем?).

Колькі ў гэтай агітбрыгадзе баявых штыкоў? Адных намеснікаў пералічыць — пальцаў рукі не хопіць. Да таго ж у распараджэнні агітбрыгады цэлы гараж саўмінаўскіх лімузінаў (смела можна дабаўляць гаражы абл-, гар- і райвыканкамаў), дзе дэфіцыту бензіну не будзе ні пры якіх абставінах. Ды гэта не будзе і залічвацца ў перадвыбарныя затраты. Словам, неблагі дзяржаўны прэзент для высоканаменклатурнага кандыдата, чаго, вядома, не будуць мець многія простыя прэтэндэнты на пасаду прэзідэнта.

Я прапаноўваў уключыць у закон пункт аб забароне выкарыстання службовага транспарту на перадвыбарныя мэты, якое не прадугледжана законам, але, на жаль, мая папраўка была адвергнута.

Так што, паважаныя выбаршчыкі, не здзіўляйцеся, калі па вашых дарогах пачнуць цугам шастаць урадавыя лімузіны. Відаць, выступаць з палымянымі ўслаўленнямі свайго шэфа стала для намеснікаў Кебіча больш важнай справай, чым вырашаць грашова-крэдытныя праблемы, змагацца з развалам эканомікі, беспрацоўем, збядненнем насельніцтва. Іх адданасць у перадвыбарнай кампаніі зразумелая...

**Іван ГЕРАСЮК, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь па Капыльскай выбарчай акрузе № 63**

